# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (492) | ГОД X | 1 ЖНІЎНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.


## ПАСЛЯЭЛІМІНАЦЫЙНЫЯ РАЗВАЖАННІ

# ТРЭБА НАМ ПЕСЕНЬ

Не толькі драмгурткі. І значна навейшай, цікаўшай формай аматарскай дзейнасці выдаюцца мне песні. Гэтак неяк нават больш па-беларуску, бо ж песні нашы не абы-якія, маюць сваю непаўторную чароўнасць, плывуць бы чыстая рака ў бляcках залатога сонца. Агляд драмгурткоў і выканаўцаў беларускіх песень арганізаваны Беларускім таварыствам (вынікі якога мы ўжо падалі) варты, каб коратка над ім затрымацца. І хутчэй для песень і спевакоў чым для драмгурткоў. Але калі ўжо пры драмгуртках, то адзначу тут такую з'яву як гурток з Белявіч (І узнагарода). Нібы гурток як гурток — група людзей (пераважна спелага ўзросту, што не часта здараецца) паставіла «Прымакі» — таксама твор валкаваны на ўсе бакі і не найвышэйшага класа. Дагэтуль, аднак, ніводзін гурток не паставіў «Прымакоў» так добра і, падкрэсліваю, с в е ж а. Вось іменна свежа. І выканаўцы з Белявіч без асаблівых прэтэнзій на акцёрства праз прызму «Прымакоў» паказалі нам кавалак вясковага жыцця напр. народнага гумару, лёгкасці, дасціпнасці.

Заслуга новай пастаноўкі «Прымакоў» мо' ляжыць у падыходзе кіраўніка калектыву, які даў удзельнікам свабоду выжыцца, які зрабіў карціну — зноў падкрэсліваю — з а б а в у.

А, каб забаўляць гледачоў, пастараўся навучыць людзей гаварыць ролі выразна, паволі, (асабліва важна гэта напр. у пачатковым маналогу) голасна і папраўна па-беларуску. Кацярынка (роля цяжкая з увагі на многасць прыпевак, да якіх няма мелодыі) падпявала сабе як хапела, круцілася і вярцелася як серабро і была ў сваёй ролі так свабодная, як пчолка на ўквечаным сонечным лузе. Здольная прытым і музыкальная дзяўчына. Усе ролі былі добрыя незвычайна і я з вялікай прыемнасцю падам праз хвіліну поўную абсаду белявіцкіх «Прымакоў». Цяпер яшчэ толькі аб тым, што рэжысёр творча патрактаваў даўнюю п'есу Купалы. Такі вось прыклад у пацы: пасля згоды наведзенай урадніка, Купала загадвае скакаць Лявоніху да музыкі Мацейкі. А белявіцкі рэжысёр (дарэчы настаўніца) Зіна Кахановіч пасля таго ж самога эпізода кажа калектыву спяваць песеньку прымакі. Людзі — ўроджаныя спевакі, робяць гэта цудоўна (паказваючы свае мажлівасці і ў груповым спеве), а потым ужо танцуюць «Лявоніху» пад музыку нова-ўведзенай у п'есу асобы — музыканта. Лявоніху скачуць не абы-як, а танцуюць сапраўды танец з фігурамі.

Выканаўцы: Максім Кутас — Павел Вільдовіч. Паланея — Марыся Кахановіч, Мацейка — Аляксандр Кахановіч, Трахім Сініца — Пятро Госцік, Дамісэля — Люба Дарашкевіч, Кацярына — Клаўдзя Вільдровіч,ураднік — Уладзімір Дудзік, Соцкі — Аляксей Дарашкевіч, музыкант — Уладзімір Лавіцкі.

*

А песні? Іх спявала 20 асоб. Усе беларускія. І гэта вялікая навіна ў нашай дзейнасці. Добра сталася, што мы звярнулі ўвагу на беларускую песню, выдабылі яе з забыцця. Заставілі галасамі любіцеляў гучэць і чараваць.

(Працяг на стар. 4)



Будынак міжпавятовага спулдзельчага склада ў Бельску.

У час адпачынку.

# АБЯСПЕЧВАЮЦЬ ВЯСКОВЫ ГАНДАЛЬ



Побач чыгункі ў Бельску Падляшскім стаіць прыгожы будынак складу. Не кожны нават з бельшчан ведае, што ў ім змяшчаецца і каму ён служыць. Летні перыяд неяк заахвоціў наведаць Бельск, а ў ім успамянуты склад. Гэта Міжпавятовы Спулдзельчы Склад, абслугоўваючы вясковы гандаль. Іменна тут забяспечваюцца ГС-ы Бельскага, Гайнаўскага, Сямяціцкага і па частцы Высокамазавецкага паветаў. Такіх складаў у краіне 77. Можа і мы не напісалі б аб складзе, калі б не факт, што заняў ён трэцяе месца ў краіне, а першае ў Беластоцкім ваяводстве за 1964 год. Мо' і то нас не захапіла б, — бо наогул бельская спулдзельчасць займае першыя месцы ў ваяводстве (ПЗГС, ПСС, і бельскі ГС) — калі б не тое, што два - тры гады таму назад ВЗГС насіўся з паважнымі намерамі ліквідавання міжпавятовага складу ў Бельску. Быў ён нерэнтабельны. Цяпер — прыносіць гонар не толькі Бельшчыне, але вядомы ў цэлай краіне.

Калектыў працаўнікоў невялікі, усяго 37 асоб. Амаль усе працаўнікі, гэта спецыялісты гандлю, рэкламы, эканамісты, працаўнікі транспарту. Ад 1 ліпеня мінулага года Склад перайшоў на ўласны разлік. Выбрана праўленне і Надзорчую Раду. Прэзасам стаў Ю. Антыховіч, а намеснікам па справах гандлю А. Садоўскі.

Таварыша А. Садоўскага я не застаў у бюро. Прысутны ён быў пры нагрузцы таварамі самаходаў. Калі падаў яму руку і прадставіўся журналісцкім білетам, быў здзіўлены. Іх проста ніколі не наведвалі журналісты. Аддае апошнія ўказанні працаўнікам і вяртаемся ў кабінет. Тут пачынаецца размова, а потым «экскурсія» па магазінах.

— Справы гандлю ў сваіх руках мае намеснік прэзаса д/с гандлю, — гаворыць таз. А. Садоўскі. — Вясковы гандаль — справа больш складаная як гарадскі. Займаемся аб'язднаю прадажаю нашых тавараў.

(Працяг на стар. 5)

